 

# Ніва

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 45 (1289) ГОД XXV БЕЛАСТОК 9 ЛІСТАПАДА 1980 г. ЦАНА 2 зл.

**КАРЭСПАНДЭНЦЫЯ З БЕЛАРУСІ**

## ГАЛОЎНАЯ БІБЛІЯТЭКА РЭСПУБЛІКІ

Кожную раніцу дзверы гэтага будынка расчыняюцца, быццам першая старонка вялікай кнігі, на тытульным лісце якой напісана „Дзяржаўная бібліятэка БССР імя Уладзіміра Ільіча Леніна“.

Адкрыццё ў 1922 годзе Дзяржаўнай бібліятэкі БССР было вялікай падзеяй у культурным жыцці беларускага народа. Бо ў дарэвалюцыйнай Беларусі не было ніводнай навуковай бібліятэкі, а ўсімі бібліятэкамі на яе тэрыторыі карысталася ўсяго 35 тысяч чытачоў. Для параўнання: сёння адна толькі „Ленінка“ абслугоўвае за год каля 40 тысяч чалавек.

У суровых умовах першых паслярэвалюцыйных гадоў Савецкая дзяржава лічыла неабходным аказваць дапамогу ў камплектаванні кніжных фондаў нацыянальных бібліятэк. Дзяржаўнай бібліятэцы БССР былі выдзелены сродкі на пакупку вялікіх спецыяльных кніжных збораў, якія былі вялікай каштоўнасцю для навуковай работы. Уласнасцю бібліятэкі сталі прыватныя зборы кніжак беларускіх вучоных — філолагаў Яфіма Карскага, Уладзіміра Пічэты, Мікалая Янчука па беларусазнаўству, этнаграфіі і літаратуры. Шчодра падзяліліся з беларусамі сваімі кніжнымі багаццямі бібліятэкі Масквы і Ленінграда, Акадэміі Навук СССР.



*Галоўны корпус Дзяржаўнай бібліятэкі БССР імя У. І. Леніна.*

*Фота Ул. Казлова.*

За 10 год існавання кніжны фонд бібліятэкі перавысіў адзін мільён экземпляраў. Бібліятэка стала сур'ёзнай базай навукова-даследчай працы ў галіне розных навук.

У гады Вялікай Айчыннай вайны падставовая частка фондаў бібліятэкі была вывезена або знішчана фашыстамі. З двухмільённага кнігазбору засталося трошкі больш трохсот тысяч асобных тамоў. Загінулі архіў друку БССР, паўтары тысячы рэдкіх кніжак, шматлікія рукапісы. Акупанты знішчылі каталогі і картатэкі. Згарэла ўсё, засталіся толькі сцены будынка.

Аднаўленне Дзяржаўнай бібліятэкі БССР пачалося адразу пасля вызвалення Мінска. Брацкія рэспублікі аказалі разбуранай Беларусі вялікую дапамогу. У яе адрас адпраўляліся не толькі абсталяванне і матэрыялы, але ішлі і пасылкі з літаратурай. Было адшукана і звернута 600 тысяч кніг. І ўжо да 1949 года Дзяржаўная бібліятэка БССР імя У. І. Леніна дасягнула даваеннага ўзроўню.

Сёння ў сховішчах, на стэлажах бібліятэкі знаходзіцца каля 6 мільёнаў друкаваных выданняў. Цікавы раздзел у гісторыі бібліятэкі прадстаўляе калекцыя рэдкай і старадрукаванай кнігі. У ёй 20 тысяч выданняў, якія дайшлі з глыбінь XV-XVIII стагоддзяў. Пэрлай калекцыі лічыцца „Біблія“ беларускага першадрукара і асветніка Георгія Францішка Скарыны. Выданне датуецца 1517 годам. З заходнееўрапейскіх кніг старая „Боская камедыя“ Дантэ. XVI-XVII стагоддзі пакінулі памяць выданнямі першых беларускіх друкар-

(Працяг на стар. 3)

## НОВЫ КУЛЬТУРНА-АСВЕТНЫ

Чарговы культурна-асветны год дзейнасці распачало Галоўнае праўленне 19 кастрычніка рабочай сустрэчай з прадстаўнікамі гурткоў БГКТ.

„Актыўнай працай сустрэнем 25-годдзе БГКТ“, — такі надпіс на палотнішчы вісіць у вялікай зале ГП над сцэнай і не мог ён не кінуцца ў вочы ўсім удзельнікам вышэй адзначанай сустрэчы сабраўшыхся на адкрыццё юбілейнага культурна-асветнага года. Гэты надпіс — як заклік да высакароднай дзейнасці на ніве беларускай культуры, як запрашэнне да яе дзейснай падтрымкі членамі і сімпатыкамі БГКТ, да ўсведамлення таго, што ўжо 25 год існуе БГКТ, якое астаўляе трывалы след у буджэнні нацыянальнай самасвядомасці і нацыянальнай гордасці, якая зліваецца з любоўю да сваёй радзімы — Народнай Польшчы. І таму спадарожнічае нам пачуццё радасці і гонару, пачуццё высокай адказнасці за ўсю тую дзейнасць, нацыянальная форма якой праяўляецца перш за ўсё на роднай беларускай мове.

Новы культурна-асветны год у БГКТ з'яўляецца юбілейным годам. Прынясе ён нашай арганізацыі далейшыя выхаваўчыя вартасці, далейшыя дасягненні. Мы ў гэтым упэўнены. Але каб былі яны яшчэ больш эфектыўнымі, неаб-

(Працяг на стар. 5)



## ГУТАРКА ЦЫЯДЗЬКІ МАКСІМА

## ПАДПЕРЦІСЯ ПАРАГРАФАМІ

Кума Яўдося з палёгкай скінула з плеч вязку сухога галля і сама нязграбна пачала ладкавацца на возе.

— Дай Божа вам здароўя, куме! — крыху аддыхаўшыся, сказала яна. — Думала, што з гэтымі дровамі прыдзецца мне начаваць на дарозе, або кінуць іх к чорту...

— Ці вы, кума, розум патрацілі, — гавару ёй, — каб на плячах дровы з лесу валачы!

— А што мне, па-вашаму, рабіць? — запытала яна. — Парайце, калі вы такі разумны.

— Ну, хаця б паехаць за вугалем. Яго і рубаць не трэба, адразу гатовы ў печку...

— Дзякую, куме, за такую параду, — спыніла яна мае вывады. — Хадзіла я за гэтым вугалем, была ў гээсе і ў гміне. Кажуць, што няма, што ўсім не хапіла.

— Можа вы, кума, замала рашуча патрабавалі, — стаю я пры сваім, а ў галаве стукае думка, каб неадкладна самому паклапаціцца пра запас топліва на зіму.

— Кажаце, куме, што мацней трэба было? — пацікавілася Яўдося.

— То ж я сам чуў, — гавару ёй, — што наш новы ўрад на патрэбы сельскай гаспадаркі прызначыў у гэтым годзе дадаткова 900 тысяч тон вугалю. Вы, мусіць, тэлевізійных перадач не глядзіце і газет не чытаеце...

— А дзе ж мне там да ўсяго гэтага, — уздыхнула яна. — Трэба думаць, як пражыць.

— Ну, не наракайце кума! То ж дзяржава дае вам пенсію, — стараюся пацешыць яе, але яна неяк цяжка ўздыхнула і кажа:

— Так, гэта праўда, кожны месяц пісьманосец прыносіць мне дахаты амаль паўтары тысячы. Гэта вялікая палёгка, факт. Толькі калі я прыпомню, як жылі мы з маім Іванам на гаспадарцы...

І яна ціха заплакала. Я ведаю, як яны жылі з Іванам. Роскашы вялікай у іх не было, бо на сямі гектарах зямлі не разжывешся, але бяды таксама не ведалі. Пакойны Іван, па прозвішчу Ткачук, мой сусед і сябар, быў працавітым мужыком. Толькі палітыкай і грамадскімі справамі занадта цікавіўся. Адразу пасля вайны мы з ім разам закладалі ў нашай вёсцы найперш ячэйку ППР, яшчэ патаемна, каб тыя з лесу не даведаліся, што мы партыйныя, а неўзабаве, у гэтым самым, сорак пятым ці шостым годзе, пасля таго, як за Кляшчэлямі банда Бурага расстраляла аж тры вёскі, наладжвалі мы ў нас армоўскую абарону. Пасля супольна змагаліся за пабудову школы і крамы, праводзілі выбары ў Сейм і ў рады нарадовыя. Іван двойчы быў нашым прадстаўніком у ваяводскім камітэце партыі. І жыццё наша так вось плыло па-суседску. Ён у мяне дзяцей хрысціў, мая Палашка ў яго кумавала... Дзеці падраслі, параз'язджаліся па школах, а затым і абсталяваліся жыць у горадзе. У гэтым годзе аддаў ён сваю гаспадарку дзяржаве за пажыццёвую пенсію. І мне раіў чым хутчэй зрабіць гэтае самае.

— Пара нам, Максімка, адпачыць, — гаварыў ён. — Хай малодшыя стараюцца. Яны маюць высакародныя мары. Хай імкнуцца здзейсніць іх. Нам астаецца толькі цешыцца, што яны жывуць лепш за нас...

Доўга, на жаль, не давялося яму цешыцца. У ліпені гэтага года вяртаўся ён дамоў з нашага мястэчка, ехаў сваім маторчыкам, „Камаром“, быў ужо вечар, ішоў дождж... На другі дзень зранку знайшлі яго ў прыдарожным рове, акрываўленага, з разбітай галавой. Міліцыя кажа, што быў пад уплывам алкаголю. Магчыма, бо часам, як кожнаму з нас, здаралася і яму выпіць. Толькі ў яго самагубства я не веру. Зрэшты, што за розніца, як ён загінуў. Факт астаецца фактам: кума Яўдося — зараз удава. Яе хутар пачынаўся за нашымі загуменнямі. Гэта парадачны кавалак ураджайнай зямлі. Гміна прадала яе аднаму такому, які ў нас лічыцца нібы прыкладным гаспадаром, спецыялістам па гадоўлі авечак. Ён зараз за хатай пакойнага Івана паставіў плот, усё поле абсеяў травой і пасвіць там сваіх авечак.

— Не магу я, куме, глядзець на ўсё гэта, сэрца баліць! — не адзін раз скар-

(Працяг на стар. 3)

 

 

## З БЕЛАРУСКАГА ДРУКУ

### АБНОЎЛЕНЫ ЗАВОД

Гродзенскі завод аўтамабільных агрэгатаў пасля тэхнічнага пераўзбраення вытворчасці амаль падвоіў выпуск амартызатараў, тармазных камер, пнеўмаапаратуры і іншых камплектуючых вузлоў да айчынных легкавых і грузавых аўтамабіляў, а таксама дзіцячых веласіпедаў. Да канца бягучага года гродзенцы паставяць Камскаму, Мінскаму заводам і іншым аўтамабільным прадпрыемствам краіны камплектуючых вузлоў і дэталей на 14 мільёнаў рублёў.

### САЛОДКІЯ... ЖУРАВІНЫ

Закладка першай у краіне плантацыі культурных журавін завершана на рацэ Бобрык у Палессі. Яны даюць ураджай у дзесяткі разоў вышэйшы за дзікарастучыя — па 30-40 тон з гектара, а салодкія ягады яе — велічынёй з вішню.

## ХРОНІКА

■ 12 кастрычніка харавы калектыў БГКТ з Дубяжына „Дубочкі" выступіў з канцэртам у Малінніках (Бельская гміна).

■ 17 кастрычніка адбыліся аўтарскія сустрэчы з літаратарамі Сакратам Яновічам і Янкам Чыквінам у наступных мясцовасцях: у школах у Вярхлессі і Астраўку ў Шудзялаўскай гміне, у Крынках, а таксама ў клубах у Піражках і Слоі — таксама ў Шудзялаўскай гміне.

■ 23 кастрычніка адбылося чарговае пасяджэнне Прэзідыума ГП БГКТ. Прысвечана яно было абмеркаванню плана святкавання 25-й гадавіны БГКТ. Між іншым, прадбачваюцца ўрачыстае пасяджэнне Галоўнага праўлення, навуковая сесія, даклады, фэсты і сходы гурткоў, прысвечаныя гэтай даце.

### КАЛЯНДАР

**140 гадоў назад**

12.11.1840 нар. А. Радэн, французскі скульптар.

**75 гадоў назад**

14.11.1905 нар. М. Васілёк (Касцевіч), беларускі савецкі паэт.

**70 гадоў назад**

10.11.1910 нар. З. Астапенка, беларускі савецкі паэт.

14.11.1910 нар. у Мінску Е. Путрамент, польскі пісьменнік.

**60 гадоў назад**

12.11.1920 нар. А. Макаёнак, беларускі савецкі драматург.

**Niwa**

**BIAŁORUSKI TYGODNIK SPOŁECZNO-KULTURALNY**

**ODZNACZONY ZŁOTĄ ODZNAKĄ „ZASŁUŻONY BIAŁOSTOCCZYŹNIE"**

**Organ Zarządu Głównego Białoruskiego Towarzystwa Społeczno-Kulturalnego**

**ADRES REDAKCJI**

**Niwa**
**ul. Wesołowskiego 1**
**15-950 Białystok, skr. poczt. 149**
**tel. 2-32-41**

* * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * * *

Wydawca: RSW „Prasa-Książka-Ruch" Kombinat Wydawniczo-Kolportażowy w Białymstoku

Druk: Białostockie Zakłady Graficzne w Białymstoku.

Ogłoszenia przyjmuje: Biuro Reklam i Ogłoszeń ul. Wesołowskiego 1, 15-950 Białystok, tel 232-41 w. 278, oraz wszystkie biura ogłoszeń RSW „Prasa-Książka-Ruch" na terenie całego kraju. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności. Prenumeratę przyjmują Oddziały RSW „Prasa-Książka-Ruch" oraz urzędy pocztowe i doręczyciele w terminach: do dnia 25 listopada na I kwartał, I półrocze i na cały rok następny; do dnia 10 poprzedzającego okres prenumeraty na pozostałe okresy roku bieżącego. Cena prenumeraty: kwartalna 26 zł, półroczna 52 zł, roczna 104 zł. Jednostki gospodarki uspołecznionej, organizacje społeczne zamawiają prenumeratę w miejscowych Oddziałach RSW „Prasa-Książka-Ruch", w miejscowościach zaś, w których nie ma Oddziałów, w urzędach pocztowych. Czytelnicy indywidualni opłacają prenumeratę wyłącznie w urzędach pocztowych i u doręczycieli. Prenumeratę ze zleceniem wysyłki za granicę przyjmuje RSW „Prasa-Książka-Ruch" Centrala Kolportażu Prasy i Wydawnictw ul. Towarowa 28, 00-958 Warszawa, konto NBP XV Oddział w Warszawie, nr 1153-201045-139-11; prenumerata ta jest droższa od prenumeraty krajowej o 50% dla zleceniodawców indywidualnych i o 100% dla zlecających instytucji i zakładów pracy.

„Niwa" — PLISSN-0546-1800. Nr indeksu 36971. Zam. 1695. Nakład 7.800 I-3.



**Весткі з Гродзеншчыны.** „Сёстры Каневіч" — фальклорная група з вёскі Пялеса Воранаўскага раёна. Усе артысткі — блізкія сваячкі. Станіслава, Тафіля, Галена, Мальвіна Каневіч і тры з іх дваюрадных сястры Тэрэза, Станіслава і Яніна спяваюць разам ужо звыш дзесяці год. Самай старшай з іх звыш сямідзесяці год, а наймалодшай — 36. У рэпертуары групы дзесяткі народных меладый, карагодаў. У вёсцы, дзе жывуць і працуюць самадзейніцы, не праходзіць ніводнага свята без іх канцэрта. Выступалі яны таксама ў Мінску, Вільнюсе, Каўнасе. Фота А. Перахода.

## КНІЖНАЯ ПАЛІЦА

# ПРА ВЕРНАСЦЬ ІДЭАЛАМ

Аўтабіяграфічная аповесць Тамаша Кірылава **„Усё роўна прайграеце вайну"***) чытаецца адным глытком, ад яе немагчыма адарвацца. „Найважнейшай вартасцю гэтых надзвычай цікавых успамінаў, якія былі ўзнагароджаны на конкурсе, прысвечаным польска-савецкаму братэрству працы, з'яўляецца аўтэнтызм і свежасць погляду; хоць аўтар і не прафесіянальны пісьменнік, але снуе сваё апавяданне маляўніча і надта займальна", — такія якасці кнігі вылучае на першы план варшаўскае выдавецтва „Кніга і веды" і цалкам заслужана. Яно выпусціла аповесць вялікім, у 20 тысяч экземпляраў, тыражом. І гэта поўнасцю апраўдана, бо кніга Т. Кірылава напэўна не заляжыцца на паліцах кнігарань.

Гарантуе зацікаўленне чытача гэтай аповесцю перш за ўсё тое, што яна выдатна ўзбагачае сучасную польскую мемуарную літаратуру тымі фактамі, якія яшчэ носіць у памяці наша старэйшае пакаленне. Якраз тое трагічнае пакаленне юнакоў і дзяўчат з Заходняй Беларусі, якое лёс кінуў у круты вадаварот падзей на нашай зямлі ў 1939-1944 гадах. Праўдзівыя жыццёвыя прыгоды Т. Кірылава (пра яго мы пісалі два гады таму назад у „Ніве" ў артыкуле „Юнак з Глыбоччыны") аказаліся багацейшыя за любую, нават самую адважную літаратурную фантазію. Ён, нашчадак рускіх старавераў, што недзе з XVII стагоддзя рассыпаліся па вёсках каля Глыбокага, рана паспытаў усе жорсткасці і складанасці не толькі жыцця ў бядняцкай сям'і, але і тую няўсцішную веравызнаўчую калатню, што цэлымі стагоддзямі точыць жывы арганізм беларускага народа, і якая ідзе на карысць толькі яго заўзятым ворагам. Але юнака не захліснула гэтая бяздонная твань, ён аказаўся мацнейшым ад яе. З Беларусі Т. Кірылаў вынес бязмежную ўлюбёнасць у родную старонку і той здаровы жыццёвы аптымізм, які ўласцівы хіба ж толькі беларускаму селяніну. Гэтыя якасці яго характару потым паглыбіліся яшчэ і ўзмацніліся. У Францыі, куды забраў сям'ю бацька, што выехаў туды ў пошуках кавалка хлеба на працу, хлапчук навучыўся не толькі французскай мове, але і пашаны да працоўнага чалавека незалежна ад яго нацыянальнай прыналежнасці. За кароткія два гады жыцця пры Савецкай уладзе на Беларусі, вучобы ў сярэдняй беларускай школе і дзейнасці ў камсамольскай арганізацыі ён пранікнуўся непераможнай патрэбай змагання за справядлівасць, за правы кожнага сумленнага чалавека. Потым насталі жудасныя выпрабаванні трываласці гэтых яго ідэалаў — невыносная праца ў Нямеччыне, несамавітасць канцэнтра-



*Тамаш Кірылаў.*

цыйных лагераў смерці, небяспечнае змаганне ў радах французскіх партызан супраць фашызму. І ён не парушыў гэтых ідэалаў, яны сталі неад'емнай часцінай яго істоты.

Такія людзі выраслі якраз там, дзе „Наш сямейны стол быў масіўны, вялікі, з немаляваных дошак. Панаваў ён паміж двума вокнамі. Заўсёды быў засланы снежнабелым абрускам з кужалю — цудам матуліных рук. Шанаваў я бель яго. Навокал стала стаялі тры доўгія, таксама немаляваныя, лавы і дзве табурэткі, змайстраваныя рукамі татулькі, які ў маладосці займаўся цяслярствам. У куце, зусім над сталом, вісела вялікая каляровая ікона Ісуса Хрыста".

Варта спазнаць, які шчодры літаратурны талент пры гэтым стале ўзгадаваўся і якія былі жыццёвыя сцежкі юнака з Глыбоччыны.

**М. Гайдук**

* Tomasz Kiryłłow, **I tak przegracie wojnę,** KiW 1980, цана 30 зл.




**Цана сялянскай працы ● Каму школа не радасць ● Польскія вучоныя аб гісторыі Беларусі ● Сляды, значаныя крывёю ● Юбілейны вечар Алеся Барскага ● Высватаў ● З народнай абраднасці ● Якія мы людзі ● З расказаў дзеда Раманчука ● Весткі з Міхалова, Ласінкі, Гайнаўкі, Бельска, Заблудава ● Адгалоскі ● Парнасік ● Калі прыйніца бусел ● Асеннія супы ● Як Кастусь жыве без гадзінніка ● Песня „Wszyscy tańczyli całą noc".**

## TELEWIZJA WARSZAWA

**Niedziela 9 XI** — 6.20 TTR Uprawa rośl. s. III. 6.50 Mech. rol. s. III. 7.20 Nasze spotkania. 7.40 Now. w domu i zagr. 8.10 Emerytury dla rolników. 8.20 Telewizjada. 8.55 Pr. dnia. 9.00 Teleranek. W programie m.in. „Niedźwiedź pana Adamsa". 10.20 Antena. 10.50 Suita Armeńska. 11.40 Dziennik. 12.00 Dlaczego? 12.45 Dla dzieci. 13.15 Koncert Życzeń. 14.00 Piórkiem i węglem. 14.25 Los. Dużego Lot. 14.40 W świecie dzikich zwierząt. 15.05 Opera miesiąca. Claudio Monteverdi — „Orfeusz" — cz. I. 16.10 Recital Haliny Frąckowiak. 16.35 Severino — film przygodowy. 17.55 Tele-Echo. 19.00 Wieczorynka. 19.30 Dziennik. 20.10 Henryk IV (1) — Więzień ludu — serial franc. 21.10 Magazyn Sportowy. 21.40 Z muzyką przez lata. 22.25 Życie wpisane w teatr..

**Poniedziałek 10 XI** — 13.30 TTR, RTSŚ — Hist. s. I. 14.00 Fiz. s. I. 15.20 NURT — Psych. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik 16.30 Zwierzyniec. 16.55 Polskie drogi — cz. XI, 18.40 Rolnicze rozmowy. 18.50 Dobranoc. 19.00 Echa stadionów. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr Tel. na świecie — P. Pawłowski — Elegia. 21.55 Horyzont. 22.35 Dziennik. 22.40 Śledztwo zostało wznowione.

**Wtorek 11 XI** — 6.00 TTR, RTSŚ, Hist. s. I. 6.30 Fiz. s. I. 9.55 Dla szkół — J. pol. kl. II lic. 11.00 Wych. plast. kl. III. 13.30 TTR, RTSŚ J. pol. s. III. 14.00 Fiz. s. III. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Klub Seniora. 16.55 Skojarzenia. 17.15 Dom i my. 17.35 Telewizja Młodych. 18.15 Królik Bugs przedst. 18.40 Polska Kronika Filmowa. 18.50 Dobranoc. 19.00 Skarbiec. 19.30 Dziennik. 20.10 Perła w koronie — pol. film fab. 22.10 Dziennik. 22.25 Rozmówki polsko-polskie. 23.00 Utwory Fr. Liszta gra. A. Draczkowa.

**Środa 12 XI** — 6.00 TTR, RTSŚ, J. pol. s. III. 6.30. Fiz. s. III. 9.55 Dla szkół: Hist. kl. V. 11.00 Muz. kl. I. 13.30 TTR, RTSŚ Mat. s. I. 14.00 Chem. s. I. 15.20 NURT — Mat. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw 16.15 Dziennik. 16.30 Michałki. 16.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.20 Klinika zdrowego człowieka. 17.45 Los. Express i Małego Lot. 17.55 Klub dobrej książki. 18.20 Turystyka i wypoczynek. 18.50 Dobranoc. 19.00 Camerata. 19.30 Dziennik. 20.15 Z życia ptaków. 20.25 Piłka nożna. Hiszpania — Polska. 22.15 Dziennik. 22.30 Trybuna literacka.

**Czwartek 13 XI** — 6.00 TTR, RTSŚ Mat. s. I. 6.30 Chemia s. I. 8.10 Dla szkół: Zoolog. kl. VII. 9.00 Hist. kl. VI. 11.00 J. pol. kl. VII—VIII. 12.50 Pochodzenie człowieka. 13.30 TTR, RTSŚ Mat. s. III. 14.00 Hod. zwierz. s. II. 15.20 Pr. dnia. 15.25 Decyzje piętnastolat. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Czwartek TDC. 17.30 Magazyn motor. 18.00 Turniej reporterów. 18.20 Patrol. 18.50 Dobranoc. 19.00 Sonda. 19.30 Dziennik. 20.10 Teatr Sensacji — Joseph Shedrian le Fanu — Carmila. 21.15 Pegaz. 22.05 Dziennik. 22.20 Mózg. 22.55 Mazurki Henryka Wieniawskiego.

**Piątek 14 XI** — 6.00 TTR, RTSŚ Mat. s. III. 6.30 Hod. zwierz. sem. III. 8.10 Dla szkół: Geogr. kl. VII. 9.00 Pr. dla kl. III. Wszyscy dla wszystkich. 9.55 Geogr. kl. VI. 11.00 Wych. ob. 12.50 Geogr kl. VIII. 13.30 Up. rośl. s. I. 14.00 Hod. zwierz. s. I. 15.05 Red. szkol. zap. 15.20 NURT — elementy wiedzy o sztuce. 15.50 Pr. dnia. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Kółko graniaste. 16.55 Dzień dobry w kręgu rodziny. 17.20 Pr. publ. 17.40 Tajemnica Enigmy — film. sens. 18.40 Rolnicze rozmowy. 18.50 Dobranoc. 19.00 Telewizja Młodych. 19.30 Dziennik. 20.10 Los człowieka — radz. film fab. 21.50 Listy o gospodarce. 22.20 Dziennik. 22.35 Teatr Nieduży Jeremiego Przybory.

**Sobota 15 XI** — 6.00 TTR, Up. rośl. s. I. 6.30 Hod. zwierz. s. I. 13.30 Upr. rośl. s. III. 14.00 Mech. rol. s. III. 15.25 Pr. dnia. 15.30 Militaria, obronność. 15.55 Obiektyw. 16.15 Dziennik. 16.30 Skakanka. 17.00 Telewizja Młodych. 17.30 I liga piłki nożnej. 18.20 W raju dzikich zwierząt. 18.50 Dobranoc. 19.00 Estrada folkloru. 20.10 Trzeba zabić tę miłość — pol. film fab. 21.50 Program reporterów. 22.25 Dziennik. 22.40 Kabaret Jana Michalika. 23.40 Waszyngton za zamkniętymi drzwiami — odc. IV. (ur)

## ТЭЛЕВІЗІЯ МІНСК

**Piątek 7 XI** — 7.45 Defilada na Placu Czerwonym. 11.05 Film fab. 12.15 Cyrk. 14.40 Film fab. 16.20 Błękitny płomyk. 19.00 Rep. z defilady na Placu Czerwonym. 20.15 Koncert.
**Sobota 8 XI** — 12.15 Klub podróży. 16.50 Z całej duszy. 19.45 Pr. estrad.
**Niedziela 9 XI** — 12.20 Nie do wiary. 13.20 Koncert. 14.15 Panorama międzynar. 15.00 P. nożna. Szachtior (Donieck) — Spartak. 16.45 Filmy anim. 17.10 Film fab. 19.35 Operetka. 20.40 Przegląd piłkarski.

## ГАВОРЫЦЬ БЕЛАСТОК!

**Беларуская радыёперадача: субота 12.05 — 12.25 (UKF).**

## КІНО

**Białowieża** Wujaszek Marin miliarderem — rum. 11—12. Szantaż — ang. 13—14. Oficerowie — radz. 15—16.
**Bielsk Podl.** Wyprawa po złoto — radz. 10. Wyznanie miłości — radz. 11—12. Wilczym śladem — radz. 13—14. Będziesz dla nas obca — radz. 15—16.
**Czeremcha** Rudy — radz. 11—12. Wezwij mnie w świetlistą dal — radz. 15—16.
**Czyże** Grzeszny żywot F. Buły — pol. 12 krzeseł — radz. 12—16.
**Gródek** Temat na niewielkie opowiadanie — radz. 15—16.
**Hajnówka** Knajpa na Piatnickiej — radz. 10—11. Step — radz. 12—13. Sprzężenie zwrotne — radz. 14—15. Wyznanie miłości — radz. 16.
**Michałowo** Woda życia — radz. 11—12. Kupiłem tatę — radz. 13—14. Staroświecki dramat — radz. 15—16.
**Mielnik** Dom i gospodarz — radz. 12. Aferzysta — radz. 15—16.
**Milejczyce** Gwiazda nadziei — radz. Hop i jest małpolud — czes. 12—16.
**Narew** Moskwa nie wierzy łzom — radz. Uwaga czarny kot — radz. 12—16.
**Narewka** Obrót spraw — radz. Step — radz. 12—16.
**Nurzec** Jesienny maraton — radz. 11—12. Jeśli odejdziesz — radz. 13—14. Dramat na polowaniu — radz. 15—16.
**Orla** Miłosne życie B. Trajkovicia — jug. Trudny jest tylko pierwszy krok — radz. 12—16.
**Rajsk** Siedem niańiek — radz. Szach królowej brylantów — radz. 12—16.



 

(Працяг са стар. 1)

## Падперціся параграфамі

дзілася мне кума Яўдося. Толькі я тут пры чым, што я магу зрабіць? Тут жа ўсё падперта правамоцнымі параграфамі.

— Я б яшчэ, — кажа кума Яўдося, — і кароўку трымала б, каб за малаком да суседзяў кожны дзень не хадзіць, і парсюка дзелень якога адкарміла б, каб сабе і дзецям...

Зараз яна і курку не мае дзе гадаваць, бо новы ўласнік яе поля крычыць, што Яўдосіны гусі і куры яму вялікую шкоду робяць, калегіяй ужо пагражае. Такі ён...

— Можа вам, кума, на зіму лепш у горад да дзяцей перасяліцца? — гавару я суседцы.

— І я ўжо аб гэтым думала, — кажа кума Яўдося. — І дзеці таксама запрашаюць. Толькі гэтая думка мне не па душы. Я ж нават па-гарадскому гаварыць не ўмею. Не дай Бог, пачнуць пальцамі тыкаць і мянушкамі рознымі абзываць...

Я якраз гэтага не баюся, але таксама згодны з кумою Яўдосяй, што наша месца на вёсцы. Тут мы нарадзіліся, тут век пражылі і тут нам у магілу класціся.

Толькі пакуль жывуць у нас такія людзі, як мая кума Яўдося, трэба дзеля агульнага дабра выкарыстаць іх прыродную любоў да працы. Чаму не дазволіць маёй куме на ўмовы, каб трымаць хаця адну карову з цялём, каб карміць штук пяць парсюкоў, каб курак і гусей магла гадаваць колькі захоча?

Вядома, дзеля гэтага патрэбна зямля. Але гэтага дабра якраз у нас яшчэ ўдосталь. Найчасцей бывае так, што ўлады не ведаюць, каму яе ўцісунуць. Чаму тады невялікія дзялянкі не прапанаваць гэтым пенсіянерам? Хай дабываюць корм і гадуюць, што хочуць, сабе і людзям на здароўе!

Здаецца, аднак, што тут неабходна падперціся новымі параграфамі, а гэта ўжо справа не на мой розум. Ваш

**Максім Нурэцкі**

(Працяг са стар. 1)

## Галоўная бібліятэка рэспублікі

няў Івана Фёдарава, Пятра Мсціслаўца, братоў Мамонічаў.

Заглянем у адзін з 24-х аддзелаў бібліятэкі — аддзел беларускай літаратуры і бібліяграфіі. У ім сабраны кнігі па гісторыі і краязнаўству, захоўваюцца нумары газет, выданыя ў 1861-1862 гадах змагаром за нацыянальнае і сацыяльнае вызваленне беларускага народа Кастусём Каліноўскім. Тут жа збіраецца ўся літаратура, якая выходзіць на тэрыторыі рэспублікі. Сістэматычна ўзбагачваецца аддзел весткамі аб айчынных і замежных выданнях аб Беларусі.

Багаты кніжны фонд і ў аддзеле замежнай літаратуры. Аматараў мастацтва прыцягвае калекцыя кніг і альбомаў па архітэктуры, музыцы, кіно розных краін і народаў свету, каталогі дзяржаўных і прыватных збораў твораў мастацтва. Для спецыялістаў вялікай цікаўнасцю з'яўляюцца сабраныя за многа год галоўныя замежныя даведкавыя выданні. Сувязі па міжнародным кніжным абмене пастаянна пашыраюцца. У адрас Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна прыходзяць пасылкі з 30 краін свету. З Мінска літаратура накіроўваецца ў Еўропу, Амерыку, Азію, Афрыку, Аўстралію. Даўнія і моцныя сувязі беларускай бібліятэкі склаліся з бліжэйшымі суседзямі — Польшчай, Балгарыяй, Германскай Дэмакратычнай Рэспублікай, Чэхаславакіяй. Многія беларусы ведаюць польскую мову, таму ёсць вялікі попыт на кніжныя выданні і часопісы братняга народу.

Цікавасць гэтая ўзаемная. Дзяржаўная бібліятэка БССР выконвае шматлікія заяўкі польскіх чытачоў на тэхнічную, мастацкую літаратуру, часопісы, газеты. Пашыраюцца і асабістыя кантакты. У Рэспубліканскай бібліятэцы створана таварыства савецка-польскай дружбы.

Амаль трыста супрацоўнікаў Дзяржаўнай бібліятэкі БССР штодзённа занятыя тым, каб задаволіць рознабаковыя патрэбы чытачоў, дапамагчы ім паўней выкарыстоўваць кніжныя багацці.

**Н. Кандрусёва**

## У глыбокім роздуме

Майстэрня вядомага жывапісца і прафесара кракаўскай Акадэміі прыгожых мастацтваў **Ежы Навасельскага** ў той пагодны верасеньскі дзень была цесна заселена самымі новымі яго творамі. Мастак рыхтаваў якраз каля трыццаці прац на выстаўку, што ў пачатку лістапада адкрывалася ў Вене. Уражвала глыбіня іх зместу і самабытнасць мастацкага выказвання. З іх проста сачылася нейкая незвычайная напружанасць, трывога, крыкі роспачы. Аўтар, гледзячы на іх па-бацькоўску заклапочаным зрокам, заўважыў:

— Так, іменна такім я ўспрымаю цяперашні час: прыгнечаны жахам нуклеарнай пагрозы, няпэўны свайго заўтрашняга дня.

А я ў гэтай пранікнёнасці ў сутнасць з'яў шукаў адгалосся перажытага мастаком — ён з 1923 года, і свайго ўласнага шляху ў чалавечнасць і мастацтва шукаў у трагічныя гады апошняй вайны, калі мяжа паміж жыццём і смерцю была проста незаўважальная. На гэтым трагічным пагранічны нараджалася яго творчасць — упершыню паказаў ён свае працы на падпольнай выстаўцы ў 1943 у Кракаве. Радавіты кракавянін, адукаваўся пад кірункам вядомых мастакоў Камоцкага і Эйсбіха ў той жа Кракаўскай акадэміі. Адразу пасля вайны актыўна ўключыўся ў адроджаны мастацкі рух у Польшчы сваімі працамі, публікацыямі, выказваннямі, горача і адважна. З 1957 г. ён працуе прафесарам жывапісу ў Вышэйшай школе выяўленчага мастацтва ў Лодзі, а з 1962 г. — у сваёй Alma Mater. Цяпер ён тут узначальвае кафедру жывапісу і малюнку.

— Мяне трэба залічыць да нетыповых з'яў у польскім мастацтве, — кажа Е. Навасельскі. — Нешта мяне паклікала да жыцця і дзейнасці іменна тут, у Кракаве, дзе заўсёды бурліла жывая плынь праваслаўя. Вядома ж, у Кракаўскім універсітэце, ад пачатку яго існавання, вучылася многа праваслаўнай моладзі з Чырвонай і Закарпацкай Русі, з Беларусі. Гэта каля Кракава сутыкаецца заходняя культура з усходняй, непадалёку Шчаўніцы знаходзіцца найдалей на захад высунутая царква. Ды я не толькі паходжу з праваслаўнай сям'і, але і сам з'яўляюся глыбока веруючым праваслаўным. Мяне вельмі займае надзвычай багатая філасофія праваслаўя, я зачытваюся працамі з гэтай галіны.

— Ці гэтым можна тлумачыць прысутнасць своеасаблівага духу праваслаўнай іконы ў значнай частцы вашай творчасці? — пытаю я.

— Болей: першае знаёмства з праўдзівым жывапісам пачалося ў мяне іменна з іконы. Памятаю, калі мне было недзе каля 17 год, я аднойчы наведаў Музей іконы ў Львове і пад уздзеяннем убачаных у ім твораў велічнага мастацтва я астаюся і па сённяшні дзень. А калі часам заглядваю ў свой творчы шлях, то выразна бачу, што ў яго аснове ляжаць абстракцыя і фігурацыя — два непрымірымыя, здавалася б, светы. І якраз вопыт іконы даў мне магчымасць аб'яднаць, сінтэзаваць гэтыя цалкам розныя кірункі ў мастацтве. Не трэба паясняць, што ікона з'яўляецца не толькі своеасаблівым творам жывапісу, але таксама надзвычай глыбокім мастацкім метадам.

Аднойчы, разважаючы над вытокамі сваёй творчасці, Е. Навасельскі заўважыў: „Ведаю, што вострыя купалы рускіх цэркваў малююць на яскравы зялёны, блакітны, іржава-чырвоны ці залаты колер. Узімку яны надзвычай выразна вылучаюцца на фоне заснежаных палёў. Ці белая карціна з дробнымі іржавымі і блакітнымі трохвугольнічкамі не прадстаўляе вам зімы ў Расіі?“ Іменна гэтая насычаная глыбокім філасофскім роздумам атмасфера ўласціва перш за ўсё творам яго царкоўнага і касцельнага мастацтва, якому ён прысвячае вялікую ўвагу ў сваёй надта ж плённай у здзяйсненні творчасці. Між іншым, Е. Навасельскаму належаць велічныя роспісы ў цэрквах у Гарадку, Беластоку-Дайлідах, Вроцлаве і іншых мясцовасцях, а таксама ў касцёлах у Збылітоўскай Гуры, Ежмановіцах Ялёнках каля Варшавы і інш. Чакаецца, што ён прыме самы выдатны ўдзел у роспісе новага праваслаўнага храма ў Гайнаўцы. Пра творчасць Е. Навасельскага на рэлігійныя тэмы мастацтвазнавец Т. Стэпноўская піша: „У іконах на рэлігійныя тэмы і фрэсках для праваслаўных і каталіцкіх храмаў выяўляюцца самыя непасрэдныя сувязі з колішнім візантыйскім жывапісам. Мастак, дасканала валодаючы іконаграфічнымі схемамі, свой свет формаў стварае інтуіцыйна. Мадонны, святыя і апосталы — зусім не водгулле, але далейшы поступ іконнага жывапісу. Мастак разумее кожны жэст постацей у іканастасе, кожны сімвал, усю павагу выказанага ў іконе. Гэтыя кампазіцыі поўны цішыні ірдзістых колераў, выразных ліній і фігур...“



*Ежы Навасельскі ў сваёй майстэрні.*

Гэта пра творчасць мастака на рэлігійныя тэмы. Пра багацце творчых здзяйсненняў ім у іншых галінах мастацтва трэба было б прысвяціць асобны артыкул, настолькі яны выдатная з'ява ў сучасным мастацтве. Напэўна ў нас будзе нагода напісаць пра гэта. Цяпер жа прыгадваем, што кажа Е. Навасельскі пра сваю доўгую педагагічную дзейнасць:

— Сваім выхаванкам — а маю іх ужо некалькі пакаленняў — я імкнуся перадаць як мага болей прафесіянальных уменняў. Прыхіляюся да новага напрамку ў мастацтве — гіперрэалізму. Ён мае цудоўную якасць: патрабуе ад мастака надзвычай сумленнай працы над няспынным удасканальваннем уласных прафесіянальных уменняў. Нястомная праца над сабой і сваім уменнем — гэта аснова асноў праўдзівай творчасці.

Гэтыя словы выказаў чалавек, творы якога вядомы ў роўнай ступені шырока на Беласточчыне, па ўсёй Польшчы як і на ўсіх кантынентах, выстаўляліся на многіх міжнародных выстаўках, знаходзяцца ў самых славутых музеях свету.

**Мікалай Гайдук**

**З НАРОДНАЙ АБРАДНАСЦІ. РАСЛІНЫ.**




Адным словам, усё — апрача дрэў. Хаця навука і першае, і другое сумяшчае ў адной і той жа групе, то ў народнай тэрміналогіі назіраецца выразная мяжа, якая выдзяляе дрэвы з рэшты расліннага свету. Калі на апошняе можна сказаць — расліна, дык ніколі і ніхто не назаве гэтак дрэва. Народ, для якога асноўнай адукацыяй былі ўласныя назіранні, выносіць дрэвы з групы раслін і ставіць іх на першым месцы ды адносіцца да іх з вялікай пашанай. Мабыць, з увагі на памеры.

— Росліна?.. Трава росліна, о тая крапіва, што пуд плотом, росліна. О то, то росліны. Але дэрэво? Дэрэво — то дэрэво. Ну бо то так, як з людіма. От бачыш, што там далеко пушла якаясь, прыміэрно жэншчына. Завшэ скажэш, што пушла баба. Але як зобачыш мужчыну — скажэш, што якісь чоловіэк пушоў, — усур'ёз тлумачыць адзін інфарматар з Клейнік.

З давен-даўна чалавек пачаў дашукоўвацца падабенства паміж сваім і раслінным светамі. Вось хаця б цыклічнасць пор года. Неаднакратна вясну спалучае ён з момантам нараджэння і дзяцінствам, а ў восені дашукоўваецца свайго роду старасці і часта гэтак акрэслівае свой глыбокі ўзрост.

Перакананне, што раслінным светам кіруюць тыя ж самыя законы і правы, што і людзьмі, лягло ў аснову пошукаў падабенстваў. І пачаў ён вылучаць з паасобных гатункаў тыя расліны, якія звярталі на сябе ўвагу сваім знешнім выглядам. Прыкладна, выдзяляліся сярод іншых сваёй нетыповай велічынёй, дзівоснасцю формы. Дало яно пачатак веры ў тое, што гэтыя расліны з'яўляюцца носьбітамі жывотнасці — свайго роду бацькамі данага поля. А адначасова маюць уплыў і на чалавека. Найчасцей адносяць гэта да збожжа, хаця агульнавядома шуканне так званага „шчасця“ ў кветках бэзу. Бытуе перакананне, што хопіць з'есці кветачку, якая адрозніваецца ад іншых колькасцю пялёсткаў — і споўняцца мары.

Настала жніво. Па загоне затанцавала каса. Вочы жнеяў і падбіральніц пільна сочаць за калоссем. Нечага шукаюць. Ёсць. Далікатна бяруць у далоні, выгладжваюць сцябло і кладуць на разасланым на мяжы фартуху. Гэтак шукаюць і выбіраюць сцяблінкі жыта з пабольшанай колькасцю каласоў. Сцябло, якое мае іх найбольш, лічаць маткай. Будуць яго дбайна перахоўваць цэлую зіму і на весну пачнуць ім засяваць. Вераць у тое, што зерне з гэтых каласоў забяспечыць добрым ураджаем. К. Машынскі ў 435 параграфе першай

(Працяг на стар. 4)

піла ў час доўгай засухі сыпнуць у студню макавае сем'я а неўзабаве спадуць з неба першыя кроплі дажджу. Небяссэнсавыя таксама словы „Cicho, jak makiem zasiał". Людзі расказваюць, што злодзей перад тым, як прыступаць да пакражы, рассяваў вакол хаты мак. Гэта давала яму вольную руку.

— І чую, што хтось по горыэ ходіт, з встаті нэ могу, — гаворыць адна жанчына з Бельшчыны. — До рана так промучылася. То тогды і овэчка пропала, і вовну з горыэ вкралі. І то ўсё чула. А вуон, паскуда, мак посіяў".

Сеялі таксама мак, калі хату наведваў дух памёршых, або прыходзілі нейкія дэманічныя ці напаўдэманічныя постаці. Быў ён непраходнай мяжой, свайго роду сцяной перад „нежаданымі госцьмі".

Істотнае месца ў жыцці чалавека займае таксама і амяла. Праўда, з'яўляецца яна раслінай, узрастаючай коштам другіх, але многа дае і з сябе. Раз можа яна спаўняць тую ж ролю, што нетыповая кветка бэзу, другі раз мае вялікае значэнне для гадоўлі пчол. Першая яе ўласцівасць больш тыповая для польскай культуры. Бытуе пераканаине, што калі пад амялой дамаўляецца маладая пара, дык неабходна яны пажэняцца. Каб прыблізіць спаўненне мар у дзень Куцці, прыносілі яе ў хату і складалі пад ёй пажаданні.

Сярод беларусаў пашырана другая яе ўласцівасць. Звязана гэта таксама з Куццёй. Сабраную зімой амялой акадзівалі ва ўспомнены дзень пчаліныя пянькі. Гэта дзеянне падказвала добрае раенне. Несумненна, мае тут значэнне збежнасць знешняга выгляду рою і амялы.

Калі некаторыя расліны мелі сілу выконвання людскіх пажаданняў або прадказвання будучыні толькі дзякуючы нетыповасці свайго выгляду, то, напрыклад, малачайка выкарыстоўвалася для варожбаў незалежна ад гэтага. Бралі першую лепшую і пыталі: „Певень ці курка?" Пачуўшы адказ, дзьмулі. Калі пух ападзе поўнасцю — певень, калі крышку застанецца — курка. Спаўненне пажаданняў узалежнена ад таго, ці хтось адгадаў.

Пры дапамозе малачайкі, толькі іншага роду — меншай, прадказвалі здароўе чалавека. У ноч перад Янам затыкалі ў сцяну столькі малачаек, колькі асоб у сям'і. Чыя малачайка развівецца, той будзе здароў, чыя — не, таго чакае хвароба або нейкае іншае няшчасце. І так можна смела і ўпэўнена сказаць, што расліны з'яўляюцца неразлучным спадарожнікам чалавека ў яго штодзённым жыцці.

**Міхась Шаховіч**



## У АБАРОНУ ВАЎКА

У „Ніве" № 39 Ф. Хлябіч піша на тэму ваўка, ставячы пры гэтым некалькі пытанняў, на якія сёння хачу адказаць. Ці ваўка можам назваць санітарам і селекцыянерам?

Напэўна так. Воўк вельмі часта з'ядае падлу лясных капытных звяроў, ці дамашніх. Гэта даказана вучонымі-заолагамі і паляўнічымі. Такім чынам ачышчае ў пэўнай ступені лес ад непажаданых элементаў. З'яўляецца таксама даволі добрым селекцыянерам лясной звярыны. Калі гоніць, напрыклад, стадка сернаў, то заўжды яго ахвярай бывае найслабейшая штука, якая, як правіла, бяжыць апошняя. Часта такая штука таму слабая, што проста яна хворая. А воўк неперабарлівы. Ён з'есць і хворую звярыну (зрэшты, робіць гэта несвядома — бо ці ж ён лекар?). Прыклад, прыведзены Ф. Хлябічам, які мае пярэчыць таму, што воўк з'яўляецца селекцыянерам, калі яго разважыць з другога боку — ён зусім непераконваючы. Тое, што воўк зарэзаў цялушку, а пакінуў старую карову, сведчыць аб тым, што ён ведаў, з якой жывёлай будзе лягчэйшая справа. Чалавек таксама — за мясам хутчэй пойдзе ў краму, чым стане гадаваць свіней. Усе мы шукаем выгады ў жыцці.

Трэба таксама сказаць, што воўк з'ядае не толькі дзікія і дамашнія віды капытных звяроў, але корміцца таксама, асабліва летам, дробнымі грызунамі, яйкамі, яшчаркамі, насякомымі, а нават фруктамі. У час аднаго харчавання з'ядае да 10 кг мяса, аднак можа даўжэйшы час галадаць.

Ці воўк небяспечны для чалавека і ці мы вымушаны яго адстрэльваць? Так, воўк можа быць небяспечны для чалавека, але тады, калі яго на нейкай тэрыторыі ёсць вельмі многа. Пры такім стане, які ёсць, напрыклад зараз у Белавежскай пушчы (да 10 штук) цяжка яго нават убачыць, а што ўжо гаварыць пра небяспеку. Нягледзячы на невялікую колькасць ваўкоў у савецкай частцы пушчы і на перадполлі часткі польскай, адстрэльваюць яго практычна без ніякіх абмежаванняў, галоўным чынам як шкодніка ў паляўнічай гаспадарцы. Так ужо склалася, што ролю селекцыянера лясной звярыны прыняў на сябе чалавек, і ён не цэрпіць, калі яна вядзецца прыродным спосабам. Трэба таксама тут адзначыць, што чалавек не вельмі добры селекцыянер. Яму якраз лепш аплоціцца застрэліць здаровую звярыну, чым слабую, хворую.

Воўк на нашай тэрыторыі ўжо даволі доўга балансуе на мяжы жыцця і смерці. Дзякуючы толькі таму, што ён вядзе качаўнічы спосаб жыцця (у адну ноч у пошуках корму можа прайсці 160 км), ён яшчэ тут выступае. Калі б мы таксама паступалі з іншай звярынай, якая вядзе хутчэй аселае жыццё, г. зн. яе жыццёвая плошча абмяжоўваецца плошчай у некалькі кіламетраў, даўно яе ўжо б тут не было.

На маю думку, ваўка ў нас трэба адстрэльваць, але не замнога. Лік 10 штук у Белавежскай пушчы — гэта мінімум, ніжэй якога нельга сыйсці. Не можам таксама кіравацца ва ўзмацненні адстрэлу такімі выпадкамі, што воўк заеў камусьці авечку. Вось колькі, напрыклад, людзей прапала ад аўтамабіляў, а ніхто ж не выступае, каб іх ліквідаваць. Воўк мае такое самае права на жыццё, як і кожны від у прыродзе. Адным ён можа шкодзіць, другім памагаць. А трэба таксама ведаць, што існуе прыказка: „у лесе больш, чым ваўка, асцерагайся чалавека". На заканчэнне хачу сказаць, што хаця ў Белавежскай пушчы я жыву 30 гадоў, ваўка ў ёй ніколі не бачыў. Раз толькі пашанцавала ўбачыць яго сляды на снезе.

**П. Байко**

## ХТО ДАЎ НАЗВУ ГАЙНАЎЦЫ?

Быць добрым тапанімістам — справа не простая. Тут патрэбны не толькі шырокія веды, даследчыцкае чуццё, але, аказваецца, і фантазія. А мне здавалася, наіўна канешне, што ключ да развязкі паходжання кожнай геаграфічнай назвы знаходзіцца ў гісторыі данай мясцовасці і гаворцы мясцовага насельніцтва.

І так, напрыклад, я лічыў, што паходжання назвы Гайнаўка трэба шукаць

(Працяг на стар. 7)

(Працяг са стар. 1)

# Новы культурна-асветны

ходна пазбавіцца ад недахопаў і памылак. І на гэта звярталі ўвагу прыехаўшыя актывісты, сярод якіх найбольш было старшынь гурткоў.

— Куды больш прыемна працавалася б нам, каб да нас часцей прыязджалі прадстаўнікі Галоўнага праўлення і расказвалі аб актуальных справах у БГКТ. Мы арганізуем сходы, вечарыны і выступленні і хацелі б, каб хаця інструктар ГП на наш раён заехаў і пазнаёміўся з самаахвярнай працай людзей. На жаль, не бачылі яго ўжо два гады ў сваім гуртку, — скардзілася Анна Стахвіюк з Трасцянкі.

Такога самага характару быў закід і прадстаўніка з Паўлаў Мікалая Нікіцюка — удзельніка драматычнага гуртка.

— Дасягненні гурткоў маглі б павялічвацца значна хутчэй, каб увесці паміж гурткамі БГКТ спаборніцтва ў галіне падпіскі на „Ніву", культурнай працы, колькасці спатканняў з цікавымі людзьмі, — гаварыў Мікалай Гайдук з Беластока, развіваючы думку сябры Янкі Полацкага з Міхалова.

— Не хапае ў нашай бібліятэцы беларускіх кніжак, якіх людзі вельмі чакаюць, — даказвала Аліцыя Станько з Ласінкі (працаўнік мясцовай бібліятэкі).

Янка Кірызюк з Бельска заняўся пытаннямі харавога калектыву „Васілёчкі", яго строямі і навыкарыстанымі грашовымі ўзнагародамі, якія прызналі мясцовыя ўлады і ваявода з нагоды 15 гадавіны існавання (сто тысяч зл.). Звярнуў ён таксама ўвагу на недахоп мастацкага інструктажу, якім займаецца толькі працаўнік ГП Янка Крупа. А ў заканчэнні сцвердзіў ён: „Замала мы прыкладаемся да працы ў БГКТ, а гэтага за нас ніхто не зробіць".

Прысутныя з увагаю слухалі аб актуальных справах БГКТ, прадстаўленых старшынёю ГП Мікалаем Самоцікам, і аб плане дзейнасці ГП БГКТ і выкананні пастаноў і прапаноў IX з'езда, зачытанага інспектарам ГП да арганізацыйных спраў Яўгеніяй Полацкай.

На гэтай сустрэчы найбольш адданыя актывісты БГКТ атрымалі ад ГП дыпломы. Закончылася нарада выступленнем мастацкага калектыву з Беларускага ліцэя ў Бельску.

**Міхась Хмялеўскі**
**Фота М. Гайдука.**




ЗАПІСКІ НАТУРАЛІСТА

# ЛЕС НА ПЯСКАХ

Назіраючы ўсё навакольнае, я часта думаў аб страшным коле часу, яго беззваротнасці, новастваральнасці, ды ўсёзнішчальнасці. Здавалася мне, што ўсе жывыя істоты гінуць бясследна. Нічога пасля іх не застаецца. Час усё з сабою забірае — добрае і дрэннае. Думкі мае былі накіраваны ў адзіны паток песімізму. Тады я яшчэ не быў знаёмы з новай навукай — іхнагеалогіяй. Спатрэбілася сем гадоў спецыялізацыі па геалогіі глеб, пакуль мне ўдалося ўхапіць ахоўную ніць іхнагеалогіі, што стаіць паміж жыццём і смерцю, пастаянствам і часовасцю.

Балючыя ўражлівыя пачуцці мае павялічыў удзел у вайне 1941-45 г.г. Я поўнасцю змяніўся.

Назіраў я, у якую нікчэмнасць пераўтвараўся пасмяротна чалавек. Ды які чалавек! Карыстаючыся сваім службовым становішчам, вымагаў я некалькі разоў апранацца і распранацца змучаных вайной салдатаў. — Ды за што? — спытаеце. — За тое, што адзін салдат не паспеў апрануцца...

Ён ніколі не думаў, хто ж ён сам... У наспех збітай дамавіне меў жаласны выгляд. Нічога з сабою не ўзяў. Сапраўды — як нямнога трэба чалавеку Ды куды дзявалася яго фанабэрыстасць і яхіднасць?.

Думаў яшчэ ў 1951 г. аб нейкіх пастаянствах навакольнага свету, пастаянствах у прыродзе. Знайшоў іх у выглядзе іхнітаў.

І вось прыехаў у Бельск з сяла Плюціцы грамадзянін Ляўчук Ян. Сказаў ён, што сем гаспадароў хочуць залясіць пясчаныя глебы. Размяшчэнне тэрыторыі — на ўсход ад с. Плюціцы. Даследаванне грунту праводзілася ўвосень 1952 года. Вясной 1953 г. атрымалі сяляне саджанцы сасны і бярозы. Пасадзілі іх. Пасадка лесу паслужыла прыкладам іншым гаспадарам. І вось ужо ў 1954-57 г.г. было пасаджана ў Плюціцах 347 га лесу. Бясплённыя пясчаныя глебы — зелянеюць.

Змяніліся ўмовы прыроды цалкавіта. Невялікі сярод палёў пералесак або хмызняк — гэта выратавальны прычал для птушак і звяроў. На палях я забараняў нішчыць адзінока росшыя дрэвы ды хмызнякі.

Аднойчы з боку храбалоўскага лесу стралой ляцеў ястраб. Перад ім, манеўруючы, ратавалася белая пліска. Ужо блізка было, і пліска магла стаць ахвярай драпежніка. Ды хмызняк з ядлоўца на полі абараніў жыццё птушкі. Уляцела ў яго галінкі. Вялізны драпежнік не меў магчымасці туды дабрацца. Так, здавалася б, непатрэбнае дрэўца ратуе ад немінучай гібелі нашых пёрыстых прыяцеляў.

Пасаджаная хвоя з прымешкай бярозы сёння з'яўляецца ўжо вялікім, з замкнутымі кронамі, лесам. Растуць грыбы. Завяліся розныя звяры ды птушкі. Глеба, палепшаная на пастаянна лесам, гэта і абазначае лесамеліярацыю глеб.

З Плюціч я перакінуў працу на залясенні пясчаных глеб у Кнаразы, Плёскі ды іншыя вёскі.

**Інж. Б. Ф. Рудкоўскін**

— То ж і я сам з горада Куйбышава, — кажа палкоўнік. — Давайце гэты ліст. Уласнаручна даручу яго маці, бо еду туды ў водпуск. Завязу проста на кватэру.

Палкоўнік стрымаў слова. Праз два тыдні Ян Дзмітрук атрымаў другі ліст ад маці Якуба Макарава, якая дзякавала селяніну за яго турботы, за добрае сэрца. Адначасова паведаміла, што гэтым лістам зацікавілася мясцовая абласная газета...

Так наладзілася пастаянная перапіска між сем'ямі Макаравых з Куйбышава і Дзмітрукоў з Мінчэва.

— Я ім пісаў аб нашым жыцці, аб нашых справах, а яны мне расказвалі пра сябе, — гаворыць Ян Дзмітрук. — Хацеў я таксама, каб бацькі Яшкі Макарава прыехалі да мяне ў госці, каб асабіста пераканаліся ў тым, як жыве ў нас памяць пра савецкіх салдат, загінуўшых у барацьбе з нашым супольным ворагам — з фашысцкай Германіяй.

Яны аднак пабаяліся за сваё здароўе. Пісалі Яну Дзмітруку, што не маглі б перажыць такой сустрэчы, што сэрца не вытрымала б. Астаткова Мінчэва наведала сястра Якуба Макарава — **Анна Іванаўна** са сваім мужам **Кранідам Аляксеевічам Альковым.** На станцыі ў Сямяцічах сустрэў іх зяць Дзмітрука — Уладзіслаў Лапацюк.

— Ён жыве ў Сямяцічах і ў яго свая машына, — інфармуе Ян Дзмітрук. — І добрая кватэра...

Анна Іванаўна амаль кожны дзень ішла за вёску і доўга моўчкі стаяла ля дота, дзе ваяваў яе брат. А пасля вярталася да сялян і кожнага з іх прасіла, каб расказалі ёй пра яе Яшку, пра роднага брацька, які ён быў, з кім сябраваў, як сябе паводзіў...

— А можа ён з кім-небудзь тут фатаграфаваўся? Можа захаваліся нейкія фатакартачкі? — дапытвалася яна. На жаль, фатографаў тады тут не было. Апошнім, бадай што, чалавекам, які ў Мінчэве бачыў яшчэ жывога Якуба Макарава, была жонка Яна Дзмітрука.

— Яна якраз у гэты час палола лён на полі непадалёк ад гэтай „точкі", — расказвае селянін. — Палезла, дурная баба, проста чорту на вілы, у самы бой, значыць, бо савецкія салдаты абараняліся тут зайзята. Трымаліся тры дні. Пакуль не падушылі іх газамі...

Абаронай кіраваў камандзір роты, лейтэнант Змейкін і партыйны арганізатар гэтай роты, намеснік палітрука, — **Корміч**, пра якога Іван Іванавіч Змейкін піша, што загінуў ён *„смерцю храбрых"*, а ў адным з дакументаў, які захаваўся ў архіве Міністэрства абароны СССР, адзначаюць, што партыйна-кандыдацкая група, якой кіраваў намеснік палітрука Корміч, была найлепшай у другой роце.

*„...у гэтай групе,* — адзначае архіўная запіска, — *кожны камуніст актыўна ўдзельнічае ў партыйным жыцці, мае партыйныя даручэнні, выкананне якіх правярае арганізатар партыйнай групы. Праца тут мэтанакіравана і яна адлюстроўвае заданні баявой падрыхтоўкі.*

(Працяг на стар. 6)

# Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка! Клічнік мае тут два значэнні: адно — гэта пахвала цябе, Сэрцайка, за шчырыя і разумныя адказы на нашыя пытанні, а другое — гэта драма, якую я пражыў.

Жыву я ў вялікім горадзе, хаця паходжу з вёскі. Мне ўжо 23 гады. Працую, добра зарабляю. Перад войскам вельмі кахаў я Олю, якая была маёй суседкай. Маё каханне было сардэчнае і чыстае. Хаця неаднойчы хацелася пацалаваць яе, маю Олю, і яна можа і не адмовіла б тады, але я проста баяўся, надта ж выдавалася яна мне ідэальнай. Як вядома, нашы юнацкія ідэалы вельмі часта лопаюць, як мыльныя пузыры. Падобнае сталася і тут. Оля пісала мне гарачыя, перапоўненыя любоўю пісьмы, а сэрца аддала другому. Выйшла за яго замуж, а мне нават і не паведаміла аб гэтым.

Што цяпер творыцца ў яе сям'і — і расказаць цяжка. Муж п'е і б'е яе. Оля ў бядзе ўспомніла мяне і просіць прабачэння. Гаворыць, што возьме развод з мужам і, калі б я з ёю ажаніўся, яна будзе кахаць, як даўней, што пачуцці яе да мяне не астылі, толькі вось так здарылася... Яна мне таксама надалей дарагая. Але калі падумаю, што аднеслася яна да мяне фальшыва і другога галубіла, дык не ведаю, ці буду ў сілах прабачыць ёй і жыць жыццём, аб якім я марыў. Ці па шлюбе са мной Оля не знойдзе сабе яшчэ трэцяга?

Вася

Вася! Шчырае дзякуй за пахвалу. І асабліва трывожуся я, каб хаця трапна параіць табе, каб і ў будучыні добрым словам успамянуў. А справа нялёгкая. На сямейнае шчасце гатовых рэцэптаў няма, іх самі выпрацоўваць мусім. Ну, адносна Олі. Каханне ў вас узаемнае і, відаць, трывалае, калі ацалела пасля такіх няўдач. Ты хістаешся, баішся, каб трэцяга Оля не знайшла. Не думаю. Пасля такой „перапалкі", у якой яна апынулася, не павінна. І абвінавачваць яе занадта за тое нельга. Маладая, а ты быў далёка. Ну і падвярнуўся той другі, як аказалася, безнадзейны. Цяпер, бедняга, вярнуцца да цябе хоча. Ты, Вася, Олю лепш ведаеш, чым я (з апісанага табой), дык добра прадумай і вырашы сам. Толькі памятай, калі ажэнішся з Оляй, дык ніколі ні ў сварцы, ні ў злосці не прыпамінай ёй мінулага.

**Сэрцайка**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Муж працаваў у полі, а жонка падрыхтоўвала яму ежу. У гэтым часе здарыўся няшчасны выпадак, у выніку якога яна была каля трох месяцаў няздольнай да працы. Ці прыслугоўвае ёй дзяржаўная дапамога, а калі так, якім спосабам можа яе атрымаць?

АДКАЗ: Падрыхтоўванне ежы селяніну і яго сям'і залічваецца да дзейнасці асоб, якія працуюць у сельскай гаспадарцы. За выпадак пры працы ў сельскай гаспадарцы лічыцца раптоўнае здарэнне, выкліканае вонкавымі прычынамі, якое наступіла падчас звычайнай дзейнасці, звязанай з вядзеннем сельскай гаспадаркі, або ў сувязі з выконваннем гэткай дзейнасці. З гэтага вынікае, што выпадак падчас падрыхтоўвання ежы селяніну і яго сям'і з'яўляецца выпадкам у час працы. Калі ў выніку выпадку не ўзнікае інвалідства, то пакрыўджанаму прыслугоўвае дапамога па 50 зл. за кожны дзень няздольнасці да працы — не больш аднак, чым за шэсць месяцаў і аднаразовая належнасць — па 500 зл. за кожны працэнт сталай або доўгатрывалай утраты здароўя. Часовую няздольнасць да працы і яе сувязь з выпадкам пры працы ў сельскай гаспадарцы сцвярджае грамадская служба здароўя на аснове карты выпадку. Карту выпадку састаўляе начальнік гміны неадкладна пасля атрымання паведамлення пакрыўджаным (членамі яго сям'і або солтысам). Належнае ўстанаўляе і выплачвае адпаведны аддзел ЗУСу.



У вадзяным млыне каля вёскі Верхняя Таніца гм. Міхалова вада на кола не ліецца... Фота М. Гайдука.



## Фальклор



### ХРЫСЦІННАЯ




*Ой выпыла, выхіліла, сама сэбэ похваліла:*
*а я доброго роду — п'ю горыэлку, як воду,*
*а я доброго роду— п'ю горызлку, як воду.*
*Захіліўшыся ў куток, по две чарочкі ў роток,*
*по две чарочкі ў роток, коб нэ болеў жыvoток,*
*по две чарочкі ў роток, коб нэ болеў жывоток.*
*Жывот болiт, жывот болiт — горэліці дайтэ,*
*горэліця нэ поможэ — мылого шукайтэ,*
*горэліця нэ поможэ — мылого шукайтэ.*

Ад Юстыны Галко, 1894 г. нараджэння, вёска Тафілаўцы гм. Дубічы Царкоўныя, запісаў 2 жніўня 1980 г. М. Гайдук, мелодыю расшыфраваў Я. Бондар.

(Працяг са стар. 5)

# Сяброўства

*Цэнтрам палітычнай партыйнай вучобы таварыш Корміч зрабіў дот. У ліку гутарак, якія камуністы роты правялі ў месяцы красавіку 1941 года, знайшліся тэмы: 1. Заданні гарнізона абароннага збудавання (гэта ў сувязі з тым, што якраз у красавіку рота перайшла жыць у доты). 2. Міжнароднае становішча. 3. Стойка пераносіць труднасці баявой вучобы. 4. Аб перамозе канчаткова рашаюць маральныя сілы байцоў..."*

Камандзір другой роты, даўнейшы лейтэнант Іван Змейкін называе яшчэ прозвішча **С. П. Фёдарава.** Быў ён малодшым тэхнікам па прыборах у чыне лейтэнанта. Паходзіў з горада Калініна. Як толькі немцы пачалі артылерыйскі абстрэл вёскі Мінчэва, ён стаў падвозіць амуніцыю ў дот. На жаль, удалося яму зрабіць толькі адну паездку. За другім разам загінуў ад асколкаў снарада.

„*Сувязь са штабам,* — піша І. Змейкін, — *адразу была спынена. Пасля дзвюхгадзіннай артылерыйскай падрыхтоўкі і бамбардзіроўкі з паветра паказаліся варожыя танкі і мотапяхота. Нягледзячы на нечаканасць удару і вялікую перавагу праціўніка, мы да самага вечара не дазволілі гітлераўцам уклініцца ў нашу паласу абароны...*

*(...) Падвечар 22 чэрвеня,* — крыху далей прадаўжае даўнейшы камандзір 2 роты 16 асобага кулямётнага батальёна, — *гітлераўцам удалося прарваць левы фланг батальёна і блакіраваць нас. Давялося весці цяжкі бой з праціўнікам, які намагаўся наблізіцца да самых дотаў, каб падарваць іх. Яшчэ болей цяжкія выпрабаванні выпалі на нашу долю на другі дзень. Раз'юшаныя фашысты кінулі на нас яшчэ больш салдат і тэхнікі. Не на жыццё, але на смерць біліся з імі слаўныя сыны савецкай Радзімы,* — сцвярджае лейтэнант Змейкін.

— Гэта ўжо было на трэці ці на чацверты дзень, — прадаўжае свой расказ Ян Дзмітрук. — Мая баба перапалохалася і вярнулася дахаты. А тут на панадворку, як бачыце, у нас калодзеж. Неўзабаве немцы прыгналі да яго рускіх салдат, каб памыліся, бо выглядалі як з пекла родам, чорныя, акопчаныя, у парванай вопратцы.

— Бо іх у гэтых „точках" нейкімі газамі ці іншай халерай атручвалі, — уключыўся Міхась Мішчук.

— Сярод тых салдат быў і Яшка Макараў, — прадаўжае Ян Дзмітрук. — Ён пазнаў маю жонку і яна яго пазнала, нават паспелі яны перакінуцца некалькімі слоўцамі. Яшка запытаў пра мяне, ці я жывы, ці дома, а мая жонка запрасіла байца да нас у хату, але ён толькі моўчкі паклаў палец на вусны і кіўком галавы паказаў на немцаў.

— Напэўна замучылі яго ў Танкелях, — заявіў Міхась Мішчук і пачаў расказваць, як гітлераўцы расстрэльвалі ў гэтай надбужнай вёсцы савецкіх военнапалонных.

Туды, на брацкі могільнік савецкіх воінаў у вёсцы Танкелі, паехала таксама і Анна Іванаўна, сястра Якуба Макарава. Яе сяброўства з сям'ёй Дзмітрукоў, з усімі жыхарамі вёскі Мінчэва, з нашай зямлёй замацавала кроў брата. Расказ аб гэтым прадоўжым аднак праз тыдзень.

**Віктар Рудчык**



*Міхась Мішчук з вёскі Мінчэва кажа, што ён дружыў з многімі савецкімі салдатамі, якія абараняліся вось у гэтым доце. Тут таксама ваяваў Якуб Макараў.*

## Куток практычных ведаў

# ПАРУ СЛОЎ ПРА РЫБУ

■ Марская рыба будзе бялейшая і лепшая па смаку, а таксама страціць спецыфічны арамат, калі перад тым, як будзем яе смажыць, спырснем воцатам ці лімонным сокам.

■ Салодкаводная рыба, такая, як карп, лінь, патраціць запах балота, калі перад тым, як будзем смажыць, дакладна памыем яе ў вельмі салонай вадзе.

■ Паніраванне рыбы ў яечку і цёртай булцы з жоўтым сырам таксама пазбаўляе яе характэрнага арамату. Перад паніраваннем рыбу трэба добра абсушыць.

■ Рыбу найлепш смажыць на алеі. Смажым яе на адкрытай патэльні, паколькі пад крышкай яна траціць крухкасць. Падсмажыўшы, рыбу таксама не трэба накрываць.

■ Рыбу солім ненадоўга перад смажкай, паколькі соль выцягвае ваду і рыба тады робіцца менш сочнай.

■ Посуд не будзе пахнуць селядцамі ці іншай рыбай, калі перад тым, як паложым туды рыбу, пратрэм яго воцатам ці кавалкам лімона, а, выкарыстаўшы, перад мыццём у цёплай вадзе спаласнем халоднай.

**Гаспадыня**

## ВЕР-НЕ ВЕР

Снілася мне, што за мной лётаў павук. Ён быў нейкі масіўны, чорны. Я ўцякала, хацела, каб ён адчапіўся, а ён усё быў пры мне. Так і прачнулася.

І другі сон. Сніцца, што я ў магазіне, стаю пры касе. У касе ляжыць многа грошай і я выцягнула некалькі аднатысячных паперак. Выйшла хутка з магазіна і чую, там гавораць, што прапалі грошы. Але на мяне не падумалі.

І яшчэ маёй сястры снілася, што пад'ехаў самаход, у які сеў яе хлопец і яшчэ многа людзей. Яна намервалася таксама ўвайсці ў самаход, але не ўвайшла, асталася. Самаход гэты пад'ехаў крыху і ўпаў у роў і ўсе яго пасажыры і гэты хлопец таксама ўтапіліся. А яна вельмі плакала. Што абазначаюць нашыя сны?

Люся

Люся! Адказваю па-парадку. Павук абазначае, што ёсць у цябе нейкі небяспечны вораг. І толькі ў тым выпадку, каб ты яго забіла, магло б абазначаць, што пераможаш гэтага ворага. Ён жа ад цябе, аднак, не адчапіўся, і з гэтым ты прачнулася. Так што сцеражыся яго!

Другі твой сон абазначае таксама нейкую небяспеку, можа нешта страціш і будзеш мець у сувязі з гэтым многа непатрэбных клопатаў.

Аб небяспецы сведчыць і сон тваёй сястры.

**Астрон**

